# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1501) ГОД XXX БЕЛАСТОК 17 ЛЮТАГА 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Л. Тарасэвіч. Пейзаж 84.

Фота Е. Бароўскага.

## З рэпарцёрскіх запісак

## ПУЛЬС ФАБРЫКІ

За развіццём і справамі **Гайнаўскага прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці імя Юльяна Мархлеўскага** сачу я ўжо чвэрць стагоддзя.

Калі канчаўся 1984 год, захацелася мне зноў прыслухацца да будаўнічага пульсу гэтай фабрыкі. Найперш спыніўся я перад аграмаднай дошкай, якая наглядна адлюстроўвае тут вынікі бягучай прадукцыі камбіната. Прыемна было мне сцвердзіць, што ўсе найважнейшыя паказчыкі па прадукцыі добра сведчаць аб працавітасці гайнаўскіх рабочых і аб спраўнасці кіраўніцтва прадпрыемства. Для прыкладу: прададзена вырабаў на 2 працэнты больш плана, перавыкананы заданні экспарту, выдатна працавалі цэхі па вытворчасці высакаякаснай фанеры, падлогавай мазаікі, сасновых дошак і паркету. Крыху не хапіла да плана гатовых мэбляў, стружкавых пліт, падлогавых плітак „Гайнаўка" і дошак з ліставай драўніны.

Гэтыя вынікі, па-мойму, сведчаць аб звычайным дзённым пульсе фабрыкі. Ёсць дасягненні і ёсць некаторыя недахопы. Ці гэта абазначае, што Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці мае ўжо за сабою крызісную хваробу?

*

Рашыў я даведацца, што аб усім гэтым мяркуе дырэктар Веслаў Філікс. Яго, на жаль, я не застаў. Прыняў мяне намеснік дырэктара, мгр інж. **Ян Піскур.**

— Ваш камбінат на два працэнты перавыканаў план продажу сваіх вырабаў, — звяртаюся да яго. — Што гэта абазначае?

— Абазначае гэта, — кажа дырэктар, — што грашовае конта нашага прадпрыемства папоўнілася дадаткова на 40 мільёнаў злотых. Гэта, безумоўна, палепшыць рэнтабельнасць нашай прадукцыі, што дазволіць адвесці крыху больш грошай на зарплату і прэміяльныя фонды.

— Але з вашай візітна-спраздачнай дошкі вынікае, — заўважыў я, — што самы вялікі недахоп, бо толькі 97 працэнтаў плана, аднатавалі вы ў пастаўках на рынак, значыць, для людзей.

— На жаль, — бездапаможна разводзіць рукамі дырэктар, — незалежна ад прынцыпаў гаспадарчай рэформы, якая абапіраецца на поўнай самастойнасці паасобных прадпрыемстваў, не ад нас усё яшчэ залежыць лёс нашых вырабаў. Яны падпарадкаваны цэнтральнаму размеркаванню, і мы, на жаль, не маем аніякага ўплыву на тое, колькі мэблі ці мазаікі або іншых нашых вырабаў атрымаюць крамы для продажу насельніцтву, а колькі іх трапіць на іншыя фабрыкі і на будоўлі.

— Чаго тады можна ад вас спадзявацца ў 1985 годзе?

— Нашы заданні вынікаюць з цэнтральнага гадавога плана, — кажа дырэктар. — Яны больш-менш такія ж, як і ў папярэднім годзе. Толькі экспарт мэблі прыдзецца нам павялічыць прынамсі на 200 працэнтаў.

Я гляджу на яго і не хочацца мне верыць, ці добра пачуў. Такое павелічэнне экспарту аўтаматычна абазначае абмежаванне паставак на ўнутраны рынак.

— На жаль, гэта проста неабходнасць, — паясняе дырэктар. — Валюта патрэбна краіне і нашаму прадпрыемству, бо многія кампаненты (клей, фарбу, некаторыя хімікаты, высакаякаснае дрэва) вымушаны мы купляць за долары.

*

Значыць, крызіс і тут парушае нармальны пульс жыцця фабрыкі. Як жа адчуваюць гэта рабочыя?

З гэтым пытаннем пайшоў я да старшыні **Незалежнага самастойнага прафесіянальнага саюза працаўнікоў Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці Яна Вярэмюка.** Гэта параўнальна малады яшчэ чалавек, хаця за ім ужо 22 гады працы на камбінаце. Быў майстрам на механічным аддзяленні. Цяпер прафесіянальная ар-

(Працяг на стар. 2)

## ХРОНІКА

■ 31 XII Галоўнае праўленне БГКТ арганізавала навагодні баль для членаў і сімпатыкаў нашай арганізацыі.

■ 31 XII гайнаўскі беларускі хор супольна з актывам БГКТ у Доме культуры „Гурнік" падрыхтаваў навагоднюю вечарыну.

■ 31 XII у Бельску ў Доме культуры харавы калектыў „Васілёчкі" наладзіў навагоднюю ўрачыстую забаву.

■ 12 I „Васілёчкі" з беларускім актывам вясёла бавіліся на карнавальна-навагодняй вечарыне.

■ 13 I гайнаўскі харавы калектыў і актывісты БГКТ добра гулялі ў мясцовым Доме культуры, адзначаючы традыцыйны новы год паводле старога стылю.

■ 13 I члены БГКТ горада Беластока ўдзельнічалі ў традыцыйнай карнавальнай вечарыне. Дасканала іграла і спявала вакальна-музычная група з Завыкаў у складзе: Славамір Сямянчук (кіраўнік), Лявон Томчук і Юрка Кожан. З навагоднімі пажаданнямі выступілі намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня і член Прэзідыума Міхась Хмялеўскі.

■ 14 I гурток БГКТ пенсіянераў у Беластоку арганізаваў для сваіх членаў карнавальна-навагоднюю вечарыну.

■ 16 I прэзідыум камітэта будовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы на сваім чарговым пасяджэнні пазнаёміўся з уступнай дакументацыяй загаспадарання пляца і існуючых аб'ектаў. Прынята была канцэпцыя інжынера архітэктара Кабаца. Яна набярэ законнай сілы пасля зацвярджэння ваяводскім архітэктарам.

■ 17 I Прэзідыум ГП абмяркоўваў даклад на пленум, прысвечаны арганізацыйнаму забеспячэнню рэалізацыі пастаноў і прапаноў X з'езда БГКТ. Члены Прэзідыума дыскутавалі таксама над планам працы ГП, які прадставіў намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня.

На гэтым пасяджэнні Прэзідыума штатнаму працаўніку Кастусю Хлябічу была ўручана ўзнагарода — Кавалерскі Крыж Адраджэння Польшчы.

■ 17 I у Беластоку адбылося пасяджэнне праўленняў трох гурткоў БГКТ, якія абмеркавалі арганізацыйныя справы адносна стварэння праўлення гарадскога аддзела. Пастаноўлена выбарную канферэнцыю арганізаваць 17 сакавіка. Пастаноўлена таксама арганізаваць супольна далейшыя мерапрыемствы: ёлку для дзяцей — 17 лютага, урачыстасць, прысвечаную 67 гадавіне Савецкай Арміі — 23 лютага, міжнароднае свята жанчын — 9 сакавіка.

■ 19 I Варшаўскі гурток БГКТ наладзіў традыцыйную карнавальную вечарыну ў Палацы навукі і культуры.

■ 26 I Галоўная рэвізійная камісія БГКТ пад старшынствам Уладзіміра Юзвюка пазнаёмілася з пакантрольным пратаколам фінансавай дзейнасці ГП прадстаўнікоў Міністэрства ўнутраных спраў. Камісія прыняла таксама план працы на першае паўгоддзе.

(мх)

**НА МЯЖЫ**

# АБ ТЫМ, ЯК Я З БАРШЧЭЎСКАГА СТАЎСЯ БАРСЧЭЎСКІМ І ЗНОЎ БАРШЧЭЎСКІМ

У 1951 годзе, калі я вучыўся ў Любліне, школьныя ўлады запатрабавалі ад мяне метрыкі. Я быў прымушаны прыехаць на Беласточчыну і пайсці да святара ў нашай парафіі ў Юшкавым Грудзе. Духоўны, даведаўшыся, калі я нарадзіўся, праспяваў: „Нет у меня, деточка, твоей метрікі, ты крестілся в Ялавке, но і там её не получіш, так как в Ялавке храм сгорел во время войны“.

Мой бацька пацвердзіў вестку аб тым, што царква ў Ялоўцы сапраўды згарэла і што ў сувязі з гэтым няма сэнсу туды ехаць. Застаўся адзін выхад: выпрабіць метрыку праз суд. І была яна выраблена ў Беластоцкім судзе з удзелам майго бацькі і без маёй прысутнасці. Атрымаўшы копіі метрыкі, я ўсюды іх складаў і ўсюды мне выдавалі рознага тыпу дакументы на прозвішча Баршчэўскі. На такое прозвішча атрымаў я і універсітэцкі дыплом, і вайсковую кніжку, краёвы і заграннічны пашпарт. Прыблізна ў 1965 годзе я быў запрошаны ў ВКР, дзе нейкі капітан з таямнічым позіркам спытаў мяне, як я ў канцы канцоў называюся. Я, зразумела, сказаў, што называюся Баршчэўскі. Тады капітан адкрыў папку, дастаў з яе копію маёй метрыкі, палажыў перада мною і спытаў трыумфальна: „А гэта што?“ Я праспакойна адказаў: „Гэта мая метрыка“.

— Так, — адказаў капітан, і паводле яе вы не Баршчэўскі, а Барсчэўскі. Я прыглядзеўся і ахнуў. Сапраўды, там выразна пасля літары „s“ не было літары „z“, значыць, было не Баршчэўскі, а Барсчэўскі.

Я пачаў даказваць, што напэўна зроблена памылка ў гэтым экземпляры копіі, а іншыя копіі і арыгінал метрыкі напісаны так як трэба. Пасля гэтага капітан уручыў мне копію і сказаў, каб я выясніў справу, і каб, калі маю, прынёс другую, добрую копію метрыкі або каб выясніў памылку.

Вялікім было маё здзіўленне, калі дома я сцвердзіў, што ва ўсіх копіях маёй метрыкі стаіць прозвішча Барсчэўскі, а не Баршчэўскі. Не было сумнення, што Беластоцкі суд, выраблаючы маю метрыку, злэфармаваў маё прозвішча і зрабіў мяне з Баршчэўскага Барсчэўскім. Калі я пачаў хадзіць у Беластоку па судах і ЗАГСах, усюды мне сказалі адно: метрыку аднова трэба выраблаць у судзе і ўласціва толькі бацька і маці могуць даказаць, што маё прозвішча мае такое ці іншае гучанне. І тут я зайшоў у свайго роду тупік. Справа ў тым, што ў той час ужо памерлі мае бацькі і не маглі быць сведкамі ў гэтай

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

ганізацыя накіравала яго на грамадскую працу.

З 1700 рабочых, якія працуюць на камбінаце, членамі прафсаюзаў з'яўляецца 1150 актуальна працуючых і яшчэ амаль паўсотні пенсіянераў. Паказчык вельмі высокі, ён сведчыць аб поўным прызнанні і аўтарытэце прафсаюзнай арганізацыі.

Ян Вярэмюк прымае ў скромным маленькім пакойчыку. Калі заглядаю да яго, якраз вядзе ён гутарку з нейкім чалавекам.

— З якімі справамі ў першую чаргу звяртаюцца да вас людзі і ці ўвогуле з чымсьці звяртаюцца? — запытаў я ў старшыні.

— Найчасцей даводзіцца мне ўладжваць самыя розныя бытавыя справы нашых працаўнікоў, — кажа Ян Вярэмюк. — Асабліва цяпер, калі на нашым прадпрыемстве ўводзіцца новая сістэма заработнай платы.

Пра гэтую сістэму чуў я ўжо і ад дырэктара Яна Піскура і ад намесніка дырэктара па эканамічных справах **Багуміла Бельскага**, які пакуль сеў у дырэктарскае крэсла, вельмі доўга быў тут прафсаюзным дзеячом. Цяперашні прафсаюзны дзеяч, Ян Вярэмюк, паясняе мне, што істотай новай сістэмы платы за працу з'яўляецца менавіта тое, **каб плаціць за працу, а не прысутнасць на працы.** Раней прынамсі палавіну таго, што атрымоўваў рабочы, састаўлялі розныя дабаўкі сацыяльнага характару.

— З момантам увядзення новай сістэмы, — кажа старшыня прафсаюзнай арганізацыі, — кожны працаўнік ужо выйграў у сярэднім па 1700 зл. на месячнай зарплаце. Вядома, адны менш, іншыя — больш. Але цяпер зарплата залежыць ужо ад працавітасці і дысцыпліны кожнага паасобнага працаўніка і паасобных рабочых калектываў.

Цяперашняя сістэма не дазваляе нікому схавацца за плечы сябра або праспаць дзень цэлы недзе ў куточку. Яна проста вымушае павышаную прадукцыйнасць працы.

Сістэма нараджалася з болем, яе па тры разы абмяркоўвалі і папраўлялі ва ўсіх цэхах і звеннях камбіната. Цяпер ужо рабочыя працуюць па-новаму.

*

І таму накіраваўся я на фабрыку мэблі. Спадарожнічаў мне яе цяперашні загадчык **Лявон Паўлоўскі.** Прасторныя, чыстыя і светлыя залы. Прыглушаны шум машын і людзі, пахіленыя над станкамі. **Мікалай Дружба з Крывяціч і Міхал**

# ПУЛЬС ФАБРЫКІ

**Юшчук з Гайнаўкі** працуюць тут ад 1970 года, ад моманту заканчэння прафесіянальнай школы. Іх зарплата перавышае цяпер 19 тысяч злотых. Толькі, каб дабіцца такой зарплаты, нельга зяваць, няма часу нават на размовы.

У канцы залы, быццам на выстаўцы, можна палюбавацца гатовай мэбляй. Гэта вядомыя гарнітуры **„Пушча“** ды іншыя камплекты. Сэрца проста баліць ад зайздрасці, што так рэдка (або і ўвогуле) яны трапляюць у нашы крамы. Але тут, на фабрыцы, гэтая мэбля таксама не залежваецца. Яе ўжо чакаюць спецыяльныя аўтамабілі-мэблявозы.

— А вось наша экспартная прадукцыя! — з гонарам адзначае загадчык фабрыкі. — Гэтая мэбля пойдзе ў Англію.

Гляджу і здаецца мне, што такой мэблі ніхто ў нас не купіў бы. Ну, што ж, замежныя кліенты маюць свае патрабаванні і трэба да іх прыстасавацца.

*

Вяртаюся назад у адміністрацыйны будынак. Па дарозе заглядаем у мазаікарню. Праца ідзе тут поўнай парай. Праца нялёгкая, бо пры канвееры зяваць няма калі. Безупынным патокам плывуць вузенькія дошачкі, а спрытныя дзявочыя рукі ўкладваюць з іх так пажаданую мазаіку.

З левага боку ад уваходу ў адміністрацыйны будынак вабяць кухонныя пахі. Пані **Людміла Міранкевіч,** кіраўнічка завадской сталовай, просіць на абед. Абед вельмі добры, з трох блюд, на другое — адбіўная катлета. Працаўнік аддае картачку на адзін кілаграм мяса і плаціць 51 злотых за поўны абед. Прадпрыемства дакладае яшчэ 5,70 зл.

— Дома напэўна ніхто за такую суму такога абеду не зрабіў бы, — сцвярджае пані Людміла. — Мы тут неяк выходзім на сваё.

Нічога тады дзіўнага, што сталовая карыстаецца вялікім поспехам. Апрача абедаў рыхтуе яна для рабочых бясплатныя рэгенерацыйныя супы з дадаткам мяса. Гэта таксама выдатная сацыяльная падтрымка.

*

Яшчэ давялося мне ўдзельнічаць у прадукцыйнай нарадзе загадчыкаў паасобных цэхаў і ў пасяджэнні завадскога камітэта партыі. У адным і ў другім выпадку з хваляваннем гаварылася аб шматлікіх цяжкасцях і перашкодах у працы, аб патрэбе павышэння дысцыпліны, каб кожная мінута рабочага часу была поўнасцю выкарыстана. Адным словам, давялося мне дакрануцца да звычайнага пульсу вялікай фабрыкі.

**Віктар Рудчык**




## КІРУЮЦЬ АПЕРАТАРЫ

Расце колькасць жывёлагадоўчых комплексаў Беларусі, якія даюць самае таннае мяса. У калгасе імя Кірава Драгічынскага раёна ўступіла ў строй сучаснае прадпрыемства, разлічанае на гадавы адкорм 24 тысяч свінней. Усе працаёмкія работы даручаны механізмам. З дапамогай аўтаматыкі імі кіруюць аператары.

Цяпер у рэспубліцы 86 такіх магутных прадпрыемстваў. У саўгасе „Белавежскі“ на Брэстчыне рыхтуецца да ўводу першая чарга буйнейшага з іх, дзе за год будзе адкормлівацца 108 тысяч жывёл.

## „ЗЗЯННЕ ПОЎНАЧЫ“ — НА ПАЛЕССІ

Прыродны газ прыйшоў у вёску Нарутовічы Бярозаўскага раёна, дзе знаходзіцца цэнтральная сядзіба калгаса „Кастрычнік“. Ад трубаправода сюды пракладзена ветка, зманціравана падстанцыя, выкананы іншыя работы. На таннае паліва пераведзена кацельня, якая забяспечвае цяплом вытворчыя і культурна-бытавыя будынкі.

На Брэстчыне пракладзена другая нітка газаправода Кобрын-Брэст, падключаная да магістральнай сістэмы „Ззянне Поўначы“, рэканструяваны Пінская і Брэсцкая станцыі, якія забяспечваюць звадкаваным палівам раёны Палесся і Прыбужжа. Яго веткі працягнуліся ў вёскі Івацэвіцкага, Кобрынскага і іншых раёнаў. Цяпер будаўнікі пракладваюць трубаправод на Маларыту.

## СТВОРАНЫ САЎГАС

У комплексным плане развіцця беларускага Палесся прадугледжана завяршыць у 1985 годзе будаўніцтва саўгаса „Дняпроўска-Бугскі“ на меліяраваных землях у Кобрынскім раёне. Гэта гаспадарка спецыялізуецца на вытворчасці малака і вырошчванні нецеляў. Саўгасу будзе перададзена 6 000 гектараў асушаных масіваў.

Цяпер меліяратары трэста „Брэстводбуд“ непадалёку ад пасёлка Дзівін узводзяць вытворчую базу і жылы пасёлак новага саўгаса.

У мінулым годзе меліяравана каля чатырох тысяч гектараў зямель, пабудавана штучнае вадасховішча аб'ёмам пяць мільёнаў кубаметраў вады, здольнае напаіць усе землі „Дняпроўска-Бугскага“.



**Паштоўка з Палесся. Абмеркаванне новай праграмы столінскага хору „Крыніца“. Фота Святаслава Крыцкага.**

# ПАМЯЦІ ДЗЯДЗЬКІ ПІЛІПА

Пасля доўгага і пакутнага памірання пакінуў нас назаўсёды Піліп Кізевіч. Пра гэтага Чалавека і Беларуса аніяк не можа сказаць дрэннае слова няхай і вораг Яго ідэйны — настолькі быў Ён шанаваным. Свой жа ўспамін пра Нябожчыка хачу пачаць я ад уласнага, нацыянальна свядомага існавання.

Пайшлі пяцідзесятыя гады, у якія гуртам валіла ў Беласток маё пакаленне, яшчэ ў даматканым адзенні і крываногае, тлумна запаўняючы сярэднія школы. Зімы былі марознейшымі, як здаецца, а і вёсны зелянейшымі. Матулі з надзеяй выпраўлялі дзетак у чужыя людзі, з адным спадзяваннем: каб хоць ім лягчэй жылося... Польская рэвалюцыя шумела чырвонымі сцягамі, захлынаючы нас сваім імпэтам, асляпляючы светлым заўтра; апладысменцілі мы і крычалі „ура“ ў паходах перад трыбунамі ды да сёмага поту капалі рыдлёўкамі на „суботніках“. Свет бачыўся нам братнім і цэлы з любві. У тую квітнеючую нашу радасць, калі ўсенька складвалася на лад святой справядлівасці, да самюткага бляску яснай, няхутка мы зразумелі, што без душы ў кожным, без таго „я“ ў глыбінях характару нашага, нічога ў толк з нас не вырасце. Што не той час, калі павінна было хапаць бацькавай „філасофіі страўніка“, славутага кавалка хлеба да самое смерці, прыхаваўшы свайго іконнага бога.

Паўсталі мы перад праблемаю не „як выжыць“, але перад цалкам новай для нас, узгадаваных у нястачы: як быць менавіта. Мяне, натуральна, пацягнула ў „рускую“ кнігарню Клуба міжнароднай кніжкі і друку (які па сённяшні дзень змяшчаецца ў будынку, што на рагу Рынку Касцюшкі і Сянкевіча). Не памятаю, як я пасябраўся з яго кіраўніком, выявілася: нашым патрыётам Базылём Літвінчыкам; магчыма, звычайна, заінтрыгаваў яго хлапчук, што гадзінамі карпянеў каля паліцаў або ў чытальні. Але, бадай, гэта ён якраз пазнаёміў мяне з Піліпам Кізевічам, сваім частым госцем, прыяцелем.

Дом Кізевічаў стаіць пры канцы Ветраковай, за таполямі (якія відаць і цяпер, калі ісці туды ад Палескай). Дзядзька Піліп запрасіў мяне неяк да сябе, на сходку, як сказаў. Ніколі, мабыць, я не перажыў такога асаблівага хвалявання, як тады, ідучы наведаць гэтага, найпершага мне ў Беластоку беларускага інтэлігента. У настроі таямнічасці пры гэтым ды з прадчуваннем нечага надзвычайнага там у яго. Правялі мяне ў пакой на паддашку, у якім прывітаў мяне сам жа гаспадар, прадставіўшы аціхлым прысутным, на выгляд студэнтам (якіх пазнаць было можна таксама па шыкоўнасці на манер „ужэндніка“ пры добрых грашах). Яны гаварылі па-беларуску і гэта ўспрыняў я як цудоўна важнае. І прадмет самае гутаркі зрабіў ашаламляльнае ўражанне: дэбатавалася ўтварэнне беларускай масавай арганізацыі, Божа ж ты мой! Сёй-той з іх пацікавіўся і маёй думкай наконт гэтага. Ну, што мог ім адказаць я, зацюканы вучань ці абітурыент электрычнага тэхнікума? Выходзіў я адтуль, бы анёл які з паднябеснай навінаю сваім школьным калегам, што былі ўжо круціліся ў філамацка-філарэцкім Саюзе беларускіх патрыётаў. Заехаўшы ў родныя Крынкі, наведаў ад таго размаху не адну хату, бы нейкі сектант, натхнёна намаўляючы выпісваць мінскі каляровы часопіс „Беларусь“ (людзі згаджаліся, давалі патрэбныя сумы). Зрабіцца нацыянальным уяўлялася як вышэйшы люксус, даступны толькі тым, у каго ёсць сумленне.

Арганізацыйны з’езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у апошнюю нядзелю завейнага лютага пяцьдзесят шостага года. Вёў яго, увесь з урачыстасці, Піліп Кізевіч. Я быў адным з тых унікальных тадышніх маладзёнаў, што самі па сабе, без ніякага настаўніка дабіліся ўмельства пісаць на культурнай роднай мове, і мяне пасадзілі за пратакольны стол (за мной ужо былі пераклады статута гэтай будучай арганізацыі і даклада на яе пачатак, над якімі папацеў у сяк-так будаванай „Ніве“). У зале бачыў сваю маці і крынкаўчан, і рос я ад гордасці; чамусьці не знаходзіў нікога з нядаўніх бойкіх наведнікаў таго, трохі як бы казачнага пакойчыка на паддашку драўлянага дома з ганкам, абвітым дзікім вінаграднікам (яны неяк папрападалі, новая сітуацыя не пад сілу ім аказалася ці што?). Гэта былі гады, у якія ізноў чулася рэха паўлегендарнай Грамады, КПЗБ, Таварыства беларускай школы, у якія адбылося фармуляванне патрэб нашай меншасці і даходзіла да ўдалых і няўдалых часцей спробаў рэалізацыі іх. Дзядзька Піліп увасабляў нам сабою дзівосна жывую лучнасць паміж даўнім і новым, абарваную войнамі, акупацыямі і чым хочаш. Мы, маладыя, глядзелі на яго як на нейкага такога, хто па-апостальску зведаў тыя далёкія дарогі, па якіх усё ішла да нас беларускасць, гэты наш свой гонар і ў нікога не пазычаная наша свая воля жыць далей на ўласны рахунак ды на ўласную адказнасць. Бывала і так, што бег я ў кут, каб выплакацца там Гаруновымі слязьмі ад шчасця, што я — беларус, беларус, беларус!!! Ён чуйна прыкмячаў гэтае шаленства ў нас, дагэтуль выхоўваемых пад адну стрыжку, нацягнутых на мадэльны капыл нулявога асобеня, і дабрадушна прыгаворваў: памалей, хлопчыкі, спакайней вы, паслухайце мяне... Усяляк потым блытаўся наш лёс, і колькі б разоў не натыкаўся я на разважанні пра добрасумленнасць ці годнасць, нязменна паўставала мне ўваччу высоз-



Фота Ю. Рыбінскага.

(Працяг на стар. 5)

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# НЯЎДАЧЛІВАЕ КНЯЖАННЕ

Падчас нашых вандровак з Берасцейска-Дарагічынскага княства ў Гарадзенскае ды зноў з Панямоння на Панароўе і Пабужжа ў чытача можа ўзнікнуць пытанне: чаму князі тураўскія, хоць бы той жа геройскі Юры Яраславіч, не намагаліся вярнуць адарваныя тэрыторыі і адрадзіць ранейшую веліч Тураўскага княства?

Знайсці адказ на гэтае пытанне можа дапамагчы агляд таго яго стану, які застаў Юры Яраславіч, здабываючы ў 1158 г. пасад тураўскага князя. Да таго моманту ўжо болей сарака год на вялікай паўночна-заходняй частцы колішняй Тураўскай зямлі жыло сваім незалежным жыццём моцнае Гарадзенскае княства. Таксама аграмадная заходняя частка Тураўскага княства ўжо сфармавалася ў самастойнае Берасцейска-Дарагічынскае княства. А ў той час, калі ў 1158-60 гадах Юры Яраславіч адбіваў нашэсці аб’яднаных войск рускіх князёў і стэпоўцаў, значная паўночна-ўсходняя частка Тураўшчыны канчаткова адлучылася і сфармавалася на ёй Слуцкае княства. І так, разлеглае і магутнае Тураўскае княства скурчылася да меней чым чацвёртай часткі яго колішняга абшару. Юры Яраславіч, можа, і марыў пра ўваскрашэнне велічы свае „вотчыны і дзедзіны“, але не было ў яго на тое аніякіх магчымасцей. Болей таго: яму нават не ўдалося забяспечыць непадзельнасць гэтых сваіх надта ж сціплых уладанняў на даўжэйшы час, бо адразу пасля яго смерці (памёр ён паміж 1167 і 1177 гадамі) сыны раскрышылі іх на яшчэ меншыя княствы-лапінкі. Паўсталі княствы-маленствы: Пінскае, у якім панаваў Яраслаў Юр’евіч, Дубровіцкае, якое атрымаў Глеб Юр’евіч, і Тураўскае, на якім „сядзелі“ браты Святаполк і Іван Юр’евічы. Вядома, асабістыя імкненні і зацікаўленні кожнага з уладароў гэтых „дзяржаў“ былі розныя, нярэдка надта ж далёкія ад клопатаў пра супольнае ўзнаўленне былой магутнасці Тураўскага княства, ды і шанцаў на гэта ніводзін з іх не меў ніякіх. Тое самае трэба сказаць пра Гарадзенскае і Слуцкае княствы — не было там ні сілаў, ні выдатных палітыкаў, якія б узняліся на барацьбу за ўз’яднанне Тураўшчыны і адбудову колішняй магутнасці дрыгавіцкай зямлі.

Але не дакарайма іх: добра ўжо і тое, што яны патрапілі ўсвядоміць сабе і ўшанаваць тое пачуццё роднасці, якое аб’ядноўвала ўсё насельніцтва былога Тураўскага княства, і не кінулі яго на братазабойчыя войны, каб выдзерці адзін у другога той ці іншы горад або кавалак зямлі. Не чуваць у летапісцаў таксама і пра тое, каб яны ўзводзілі ўзаемна на сябе нашэсці палкоў іншых князёў або іншапляменцаў. Словам, не акунулі дрыгавічоў у тое пекла самазнішчэння, у якім апынуліся з-за хцівасці і славалюбства князёў паўночная і паўднёвая часткі былой Старарускай дзяржавы, асабліва ж Кіеўская зямля.

Суцяшальна, праўда ж? Але за адным выключэннем, надта ж балючым для нас, бо яно датычыць Берасцейска-Дарагічынскага княства. Справа ў тым, што адразу пасля смерці Яраполка Ізяслаўіча (1171 г.) усчалося заядлае змаганне за берасцейска-дарагічынскі княжацкі пасад. Вядома, перамог мацнейшы. І так, на берасцейска-дарагічынскае княжанне ўзышоў

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар 3)

ная постаць Піліпа Кізевіча. Часам падумаецца і такое: хто праўды шукае, той з гузам варочаецца. Аднак жа, зусім не значыць гэта, што трэба залезці ў свой катух, жывым лягаць у магілу, быць духоўным трупам. Наколькі ж дзічэйшымі і прымітыўнейшымі засталіся б мы цяпер, калі б не жыў сярод нас Дзядзька Піліп, — вось у чым сэнс ахвяры жыцця! — Ён паводзіў сябе нервова, выбухаў гневам, зласлівіў і крычаў, грымаў кулаком па стале, наводзіў сполых ды паніку! Ніхто ўсё-такі з ліку сур'ёзных людзей не папракаў Яго ў эгаізме ды карысліваcці, бо накшталт боскага выяўлялася ў Ім абурэнне подласцю або драбноцем. Ці мала нашых дзеячоў, яшчэ пры іхным жыцці пахавала ў нябыт справядлівая памяць людская, а некаторыя пакінулі па сабе нават меланхолію крыўды, імі ўчыненай камусьці ды бессэнсоўна ўдадатак?

Кізевіч прымаў непасрэдны ўдзел у кіраванні Беларускім таварыствам, будучы членам Прэзідыума ягонага Галоўнага праўлення. Я, працуючы ў якасці выконваючага абавязкі загадчыка арганізацыйнага аддзела — ці раз пажартаваў быў, разам з іншымі і як бы па-хатняму, з Дзядзькі Піліпа, які прыходзіў на пасяджэнні заўвычай незадаволены, нечым узбуджаны, часам бурклівы. — Як піць даць, ізноў дастанецца ад яго нашым шэфам і ў хвост і ў грыву!

Ён цярпець не мог маны.

Калі вярнуўся я назад на работу ў рэдакцыю „Нівы" — вырашыў, каб хоць прыблізна апісаць долю і надолю Піліпа Кі-

# ПАМЯЦІ ДЗЯДЗЬКІ ПІЛІПА

зевіча. Упераканаў Яго, што справа тут не ў ягонай хвале, і што тое „жыціе" належыць да нас усіх. Пачалі мы сустракацца, і Ён пачаў расказваць (на тым жа паддашку). Дзякуючы гэтаму я, можна сказаць, прайшоў уступны курс заходнебеларускай гісторыі і палітыкі (якую, пасля дваццаці гадоў так навукова даследавала ды абагуліла Аляксандра Бергман у кніжках: „Слова пра Браніслава Тарашкевіча" і „Беларускія справы ў Другой Рэчыпаспалітай"). На старонках жа „Нівы" публікаваў я Кізевічавае ўрыўкамі, быццам кроплю па кроплі дарагога леку (1962/63 г.г.). З Яго імем звязана дзейнасць перадваеннага Таварыства беларускай школы пад Беластокам і на Гродзеншчыне; заснована патаемнае навучанне роднай мовы ў гарадоцкім ваколлі.

Апошні раз бачыліся мы, калі і Яму, і мне, маладому вераб'ю, было вельмі і вельмі блага. За вокнамі пагудваў наш вялікі правінцыяльны горад і недзе балаганіла дзецярня, а Ён і я то адзываліся да сябе, то маўчалі, усё роўна што выгаварыўшыся нарэшце датла. Выходзіў я ад Яго на гэты наш белы свет, несучы ў сабе няяснае перакананне ў тым, што ўсё-такі не сказаў Яму нешта найгалоўнае (так развітваюцца з канаючым бацькам). І чым далей я адыходзіў ад ягонага дома ў садку, тым мацней думалася мне аб гэтым. І колькі потым я не намагаўся паглыбіцца ў сваё сумненне, не знаходзіў у ім таго адзінага, у чым змяшчаўся б увесь Дзядзька Піліп. Ён быў настолькі багаты сваёй натураю, што наглядалася ў Ім усё тое фундаментальнае Чалавеку і ў Беларусу ды ў ягонай сутнасці.

**Сакрат Яновіч**



Беластоцкі пасёлак Сянкевіча. Фота Я. Целушэцкага.

лацкай зямлі. Сярод іхніх князёў адыгрывалі значную ролю сыны мінскага князя Глеба Усяславіча, які памёр (1119 г.) у Манамахавай няволі ў Кіеве. Асабліва зухаватасцю і зацятасцю ў змаганні супраць Манамахавых нашчадкаў вылучаўся Валадар (Уладзімір) Глебавіч. Скарыстаўшы з занятасці валынскіх князёў умацаваннем у Кіеве, мінскі Валадар Глебавіч у 1177 годзе неспадзявана ўдарыў на Бярэсце, здабыў яго і заняў Берасцейска-Дарагічынскае княства. Ведама, не адно прага помсты кіравала ім у гэтым — здабыццё ва ўласнае ўладанне заможнага і люднага Пабужжа і Панароўя было рашаючым.

Васілька Яраполчыч „побеже" да свайго швагра Лешка Мазавецкага. І той не застаўся безуважным на яго біду: неўзабаве палкі „мазаўшан і палякаў" (так, летапісец разрозніваў іх) рушылі ў Берасцейска-Дарагічынскае княства і адолелі Валадара Глебавіча. Але не задарма: Васілька Яраполчыч аддаў Лешку Мазавецкаму Бярэсце з наваколлем, а сам сеў у Дарагічыне. Аднак такі стан усё ж доўга не пратрываў.

Валадар Глебавіч не быў чалавекам падатлівым ды і насельніцтва Берасцейска-Дарагічынскага княства яму відаць, спрыяла. Ён падаўся на Міншчыну і пры дапамозе свайго брата Расціслава Глебавіча пачаў рыхтавацца да новага паходу на Панароўе і Пабужжа. Мяркуючы па тым, што і ў ранейшых яго ваенных кампаніях супраць польскіх князёў саюзнікамі яго былі літоўцы, мабыць, і цяпер ён атрымаў немалую дапамогу з Літвы. Зацятая бітва за Бярэсце ішла паўдня і перамог Валадар Глебавіч. Даўшы крыху адпачыць сваім войскам ды ўзмацніўшы іх воямі з Берасцейшчыны, накіраваўся ён на Дарагічын і таксама здабыў яго. Васілька Яраполчыч зноў „побеже" ў Мазоўша за дапамогай. Мабыць, не карыстаўся ён у Берасцейска-Дарагічынскім княстве падтрымкай насельніцтва і толькі войскі жончыных родзічаў падпіралі яго. Лешка Мазавецкі і на гэты раз не адмовіў у падтрымцы няўдачліваму швагру і пасобіў яму адваваць Дарагічын. Аднак Бярэсце засталося пад уладай Валадара Глебавіча. І так Берасцейска-Дарагічынскае княства распалася на два абасобленыя і варожыя адно другому княствы: Берасцейскае і Дарагічынскае.

Ці то са згрызоты па страчаным, ці то ад ваенных нягодаў і ранаў, а мо і з іншай прычыны, але амаль адразу пасля вяртання ў Дарагічын памёр Васілька Яраполчыч. Нідзе ў летапісах не відаць запісу, што па ім „люди многи плакася вельми". Яго панаванне на Пабужжы і Панароўі было суцэльным спапяленнем і разбурэннем усяго таго, што карпатліва будавалася тут доўгія дзесяцігоддзі.

Як мяркуюць гісторыкі, пасля Васілька Яраполчыча не засталося нашчадкаў, і Дарагічынскае княства перайшло ва ўладанне невядомага па імені і паходжанні князя, мабыць, аднаго з нашчадкаў князёў гарадзенскіх, якія таксама, як Валадар Глебавіч, усё цясней звязваюцца з Літвой і Яцвягіяй, каб супрацьпаставіцца націску з захаду і поўдня.

**Скрыгат зброі на Пабужжы і Панароўі не заціх, але аб гэтым ужо праз тыдзень.**

**Мікола Гайдук**




# ПРАБЛЕМЫ

Зіма. Мароз: пятнаццаць градусаў. А мы з В. Семенюком у вагоне на беластоцкім вакзале. Да адпраўлення цягніка амаль дзве гадзіны. Гутарым аб розным па-свойму. Раптам вачам не верым: Вайсковіч. І ў купэ як бы пацяплела. Дайшла яшчэ панюся з сынам. Відаць, з нашых бакоў, бо час ад часу закідае па-нашаму. Прыбыў яшчэ селянін з жонкаю, наш, які таксама, як і мы, невядома чаго шукаў у горадзе. У кожнага свае праблемы, але гутарка ў нас на агульную тэму: крызіс, цэны. Вінавацім слабых эканамістаў. Урэшце пераходзім да несмяротнага пытання: дзе жывецца лепш, на вёсцы ці ў горадзе?

— Вядома, што на вёсцы лепш, — гаворыць панюся. — Усё сваё, а грошай колькі хочаш. З адной кароўкі пяць тысяч у месяц.

— Пэўна, пэўна, — кажу. — Іншых бачыш, ужо і грошы іхнія падлічыла, а пра сялянскія цяжкасці ні гу-гу.

— А што, можа, вёсцы кепска? — загарачылася панюся. — Машын хапае. Усё табе, што хочаш. Толькі плакаць навучыліся.

— Так, так, — уключыўся Семянюк, — машыны маем, дарма іх атрымалі, а цяпер яны на нас працуюць, мы ж толькі ляжым дагары трыбухамі. А што з каровай, калі ёй радзіць трэба? А тут ноч, мароз. Прэш у горад, па лекара. А ў горадзе адны спяць, а другія ў цяпле тэлевізар аглядаюць. Лячэбніца закрыта, на дзвярах адрас дзяжурнага лекара. Маеш чым завезці, вязі. А як ты без самахода? Твая праблема, мазгуй.

— Або ў мяне, — адазваўся незнаёмы селянін, што з жонкай ехаў, — вады няма, а кароўка, як чалавек, піць хоча. І кожны дзень з бочкаю па ваду едзь. Замерзне, лёд рубай, а кароўка ад вядра не адыходзіць, як на зло, два разы больш, чартоўка, выпівае, чым летам. Працы нашай ніхто не бачыць.

У купэ размова не сціхае. А цягнік усё далей ляскае, дом наш набліжае.

— Ой, даражэнькія, — кажа Вайсковіч, — бяды няма ні ў горадзе, ні ў вёсцы. Хоць бы ў мяне. Да крызісу двух парсючкоў карміў. І цяпер двух, ды яшчэ аднаго на карткі дакупляю. Картак шкада, каб прападалі. Адна бяда, старасць прыходзіць.

— Ай, ай, яшчэ вы не вельмі пастарэлі. З выгляду нічога сабе, і сэрцам, пэўна, малады.

— Ну, хіба як кілішак вып'ю.

У купэ прыціхлі. Можа кожны ўжо домам жыў. Чуваць было толькі:

— Стук-так, стук-так, стук-так...

Цягнік гаварыў, што і ў яго свае праблемы.

**Г. Мароз**

(Працяг са стар. 2)

## АБ ТЫМ, ЯК Я З БАРШЧЭЎСКАГА СТАЎСЯ БАРСЧЭЎСКІМ І ЗНОЎ БАРШЧЭЎСКІМ

справе. У сувязі з тым, што ніякая ўстанова не цікавілася разыходжаннем паміж усімі маімі дакументамі і метрыкамі, а ВКР заўважыла недахоп у метрыцы адной літары, але не заўважыла, што я не вярнуўся да яе з новай метрыкай, я, часта забываючы аб усёй справе, хадзіў сабе па краіне і ездзіў па замежных краінах, не думаючы аб тым, Баршчэўскі я ці Барсчэўскі.

Аднак у 1984 годзе стварылася новая неспрыяльная сітуацыя. Мой, выдадзены ў 1969 годзе, пашпарт цалкам разваліўся і не мог служыць доказам маёй таясамасці. Ад адпаведных улад атрымаў я ліст з патрабаваннем падаць усе паперы і перш за ўсё метрыку для таго, каб атрымаць новы пашпарт.

І тут я ахнуў страшэнна, бо зразумеў, што не пазбягу камплікацыі, судоў і Бог ведае чаго. Зноў кінуўся ў Беластоцкі суд пры вул. Складоўскай. Адтуль мяне паслалі ў ЗАГС пры вул. Леніна. Калі ўжо настаяўся ў чарзе і ўрэшце дайшоў да чыноўніка, той парыўся ў кнігах і сказаў, што ўсе мае метрыкальныя даныя ў Міхалове.

Паехаў я з цяжкім сэрцам у Міхалова, не верачы ў карысны для мяне вынік справы. І якраз у Міхалове наступіў свайго роду цуд. Супрацоўніца гміны Галіна Сушынская, нягледзячы на тое, што заехаў я ўжо пасля гадзін працы, пераглянула метрыкальныя кнігі. Я ўпіўся прагна ў метрыкальны тэкст. А там было напісана: Барсчэўскі. Ва мне нешта абарвалася, я адышоў на крок назад. Тым часам пані Сушынская чытала пацыху далей і ў канцы прачытала канклюзію: „З увагі на памылку, прозвішча павінна гучэць Баршчэўскі". Я падскочыў ад шчасця, а пані Сушынская выпісала мне новую копію метрыкі, а тыя копіі з Барсчэўскім загадала выкінуць у кош са смеццем. Пры гэтым усім не ўзяла нават скарбовай аплаты. Глыбока ўзрушаны, я падзякаваў і сказаў, выбягаючы з пакою, што напішу аб гэтым у „Ніву" артыкул. На гэта сяброўка пані Сушынскай кінула ўслед: „Лепш напішыце верш!" І гэта рэпліка была свайго роду мёдам для майго сэрца, бо хто ж мог думаць, што паненкі з Міхалоўскай гміны ведаюць аб тым, што я пішу вершы.

І вось такім чынам стаўся я тым, чым былі ад вякоў мае продкі — Баршчэўскім і квіта.

Я сказаў, што ва ўсіх маіх дакументах маё прозвішча гучыць Баршчэўскі і гэта не зусім праўда. У актах аб маім шлюбе і разводзе выступаю ўсё ж як Барсчэўскі. Аднак гэтым не пераймаюся, бо сёння здаецца мне, што жаніўся і разводзіўся не я, а нехта намнога меней разумны за мяне.

**Алесь Барскі**



„Васілёчкі". Фота Е. Хаманюка.

# ЧЫТАЧ, АДКАЖЫ І ТЫ!

Асабліва два з мноства пытанняў, якія ставяць старэйшыя і маладыя мне як журналісту „Нівы" і як дзеячу Беларускага таварыства, не хацелася б пакінуць глухімі. Паспрабую я, паспрабуйце і вы. Можа разам адкажам на гэтыя пытанні.

Адно з пытанняў паўтараецца ўжо даволі даўно. Другое пачула нядаўна. Абодва сведчаць аб актыўных, заангажаваных адносінах людзей да беларускай дзейнасці. Справы, якія скрываюцца ў гэтых пытаннях, павінны быць вырашаны адзіным спосабам: выканаць!

Першае датычыць касет з запісамі песень, вершаў, інсцэнізацый беларускага мастацкага руху, а ў першую чаргу агульнапрызнаных калектываў: „Васілёчкі", „Дзявочыя ноткі", „Каласкі" і Гайнаўскага беларускага хору (яшчэ без уласнага імя).

Касеты такія для хатняга прыватнага карыстання маглі б запісвацца дамамі культуры ў рамках звычайнай паслуговай дзейнасці, згодна з іхнім рэгулямінам. Вядома мне, што, напрыклад, Бельскі дом культуры мае ўсе магчымасці, каб такую працу рабіць. Касеты (цана касеты плюс паслуга, напрыклад, 200 зл.) маглі б прадавацца на канцэртах гэтых калектываў, а таксама высылацца за паштовым залічэннем любіцелям беларускай песні. Вядома ўсім, што такая форма папулярызацыі песні ў нас шырока прынята. Ахвотных ёсць многа, у тым ліку на беларускія і рускія песні таксама. А такія песні ў асноўным і складаюць рэпертуар беларускіх калектываў.

Фальклорныя калектывы і групы спевакоў гэта своеасаблівая рэч. Ці ж не цудоўна было б запісаць на плёнку абрад вяселля, хрысцін, адведкаў з усім багаццем народных абрадаў, звычаяў, прыпевак і песняў?!

Касетны запіс — цяпер самы танны і самы просты від культурна-асветнай працы. Ці хутка такім ён стане ў нашай дзейнасці? Ці хутка мы зразумеем, як па-сучаснаму працаваць? Ці касета, як найбольш даступны сродак масавай культуры, зможа ўвайсці ў нашу традыцыю? Касету ж лягчэй паслаць у Быдгашч ці Гданьск, чым завезці 40 асоб з „Васілёчкаў", працуючых жа штодзень людзей. А якраз „Васілёчкі", якім споўнілася 20 гадоў плённай дзейнасці, варты таго, каб па ўсёй краіне распаўсюдзіць іх песні. Канцэрты, вядома, таксама трэба арганізоўваць, адно другому не перашкаджае.

У дапіску хачу сказаць, што: касеты ў крамах ёсць, дамы культуры маюць апаратуру і здольных майстроў, каб выканаць вельмі чыстыя запісы, а ў працы дамоў культуры прадбачваецца розная паслуговая дзейнасць. Застаецца толькі арганізаваць справу. А ў канцы чакае падзяка шматлікіх любіцеляў песні і шчасліўцаў, якія касету здабудуць.

Другое пытанне датычыць Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы — што не мае ён дагэтуль свайго патрона. Столькі гадоў ужо пад імем Тарашкевіча Бельскі белліцэй жыве і працуе, а пра імя для другога з нашых слаўных як бы забыліся, як бы не падумалі.

Ёсць многа вялікіх беларускіх прозвішчаў, звязаных, як і Тарашкевіч, з нацыянальнай і асветнай дзейнасцю, якія могуць з гонарам патранаваць заслужанаму для асветы і выхавання Беларускаму ліцэю ў Гайнаўцы.

**Вера Леўчук**

**ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ**

## У КАТЛЕ

У суботу пасля абеду завітаў у Грыбаўцы загадчык збожжавага склада ў Валілах, дзе Міцька Карповіч служыў камендантам стражы. Цётка Юльяна падрыхтавала багаты пачастунак, які зацягнуўся да вечара. Час праходзіў весела і бестурботна. Было што выпіць і чым закусіць. Кампанію папоўнілі сябры і суседзі, завялі грамафон, паплылі песні.

Загадчык быў рускім чалавекам, з „васточнікаў", якіх у 1939 годзе прыслалі сюды, каб устанаўляць і замацоўваць савецкую ўладу.

— А што вы мяркуеце наконт германца? — дзядзька Лукаш прысеў да гэтага загадчыка, якога лічыў важнай фігурай. — Ці не завялікі апетыт у Гітлера? То ж амаль цэлую Еўропу ўжо праглынуў!

— Ды не бойцеся! — супакойваў той яго. — У нас з Германіяй падпісаны дагавор аб узаемным ненападзенні і наш урад гатоў поўнасцю выконваць яго пастанаўленні. Гэта ясна вынікае з заявы ТАСС ад 15 чэрвеня. Чыталі?

Хто чытаў, а хто і не, бо мала хто ўмеў чытаць, а тым болей — чытаць па-руску. Пры цары ніхто не клапаціўся аб грамаце для мужыцкіх дзяцей, а пад панскай Польшчай за навуку на рускай ці беларускай мовах пагражалі суровыя пакаранні. Аднак урадавая заява ад 15 чэрвеня 1941 года шырока распаўсюджвалася і ў нейкай ступені дайшла яна да кожнага грамадзяніна вялікай краіны Саветаў.

— Міцька, запусці яшчэ нейкую пласцінку! — загадала цётка Юлька, каб спыніць гэтыя палітычныя размовы. — Бачыш, дзяўчаты аж просяцца ў танцы.

— Добра, — згадзіўся сын і тут жа дакінуў: — Але давайце пяройдзем у садочак. Вечар сёння гэтакі прыгожы!

Пасля цэладзённай спёкі вечар сапраўды стаяў цёплы, зорачны і духмяны. Дыхалася лёгка, а з лесу наплываў смалісты пах сасны. Адны толькі камары надакучліва бзычалі ля вушэй.

Загадчык з Валіл застаўся на начоўку. Адчуваў сябе тут як роўны сярод сваіх. Падабалася яму, што гаспадары ды іх аднавяскоўцы адносіліся да яго з яўнай пашанай, як да кагосьці лепшага, хаця сам ён не лічыў неабходнымі гэтакія адносіны тутэйшых людзей.

Пасцялілі яму ў шырокім ложку, на свежых прасцінах і пуховай падушцы. Спалі даволі доўга. Ён і яго малады сябар ведалі, што з усходам сонца распачнецца нядзеля, значыць, выхадны дзень, як тады гаварылася, і няма патрэбы куды-колечы спяшацца. Разбудзіў іх гаспадар.

— Штосьці дзіўнае дзеецца на свеце, — апраўдваўся дзядзька

# ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР

16 студзеня Дом савецкай культуры ў супрацоўніцтве з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і гуртком БГКТ арганізаваў вечар пад загалоўкам „Беларуская літаратура і Айчынная вайна“.

На гэты вечар скаліся: даклад Аляксандра Баршчэўскага, выказванні перакладчыкаў беларускай літаратуры на польскую мову, выступленне прадстаўніка Савецкага пасольства, чытанне акцёрамі варшаўскіх тэатраў твораў беларускіх пісьменнікаў.

У сваім змястоўным дакладзе Аляксандр Баршчэўскі прадставіў лёсы беларускай літаратуры, якія, на яго думку, былі і ёсць цесна звязаныя з лёсамі беларускага народа. Паводле дакладчыка, беларуская літаратура, прысвечаная паказу Айчыннай вайны, выразна падзялялася на два перыяды.

У першым перыядзе дамінуе рамантычная ўзнёсласць, ілюстрацыя ваенных падзей, у якой было многа пачуццёвасці, але мала факталогіі. Другі перыяд абазначае паяўленне шматлікіх твораў такіх пісьменнікаў, як І. Мележ, І. Чыгрынаў, Б. Сачанка, Я. Брыль, а перш за ўсё В. Быкаў, у якіх факталогія дамінуе над усякімі містыфікацыямі. Літаратура гэтай плыні не пазбаўлена „горкіх праўд“, неабходных для таго, каб маладое пакаленне, якое не ведае вайны з уласнага вопыту, пазнала вайну такой, якой яна была ў сапраўднасці.

Пасля даклада Аляксандра Баршчэўскага выступілі з цікавымі выказваннямі перакладчыкі беларускай літаратуры Э. Кабац, Е. Літвінюк, Ч. Сэнюх, Ю. Озга-Міхальскі, Ф. Няўважны і прадстаўнік савецкага пасольства Леанід Лойка.

Дыскусія была настолькі змястоўнай і доўгай, што арганізатары былі вымушаны пералажыць на пазнейшы тэрмін дэманстрацыю фільма па аповесці В. Быкава „Сотнікаў“.

Прысутныя з глыбокім задавальненнем пакідалі ўтульную залу Дома савецкай культуры.

**Міхась Сваяк**




## ДАЖЫЦЬ ДА НАСТУПНАГА ВЕКУ

Трывожнае складанае жыццё
Не дазваляе пазнаваць нам свету.
Пяройдзе чалавек у небыццё
І не паспее вывучыць планеты.

Таму ў наступны дваццаць першы век
Бягуць мае нядзейсненыя мары:
Каб хоць з ракеты глянуў чалавек
На незнаёмыя Зямлі абшары.

* * *

Толькі еду я ў спальным вагоне —
Нат і ў сне сэрца кратае боль,
Калі сніцца, са сну раптам гоняць:
„Уставайце!
Таможны кантроль!“

І таму прашу „ЛЁТ“: самалётам
За мяжу паляцець мне дазволь,
Каб мяне не зрывалі з дрымоты:
„Уставайце!
Таможны кантроль!“

**Віктар Швед**




Дарагое Сэрцайка! Мы з братам вучымся ў ліцэі. Яму на два гады больш. Брат ужо ў трэцім класе, а я ўсяго ў першым. Да гэтага года мы з братам сябравалі вельмі сардэчна, хоць ён хлопец, а я дзяўчына. Заўсёды дзяліліся рознымі сваімі справамі, але сёлета ўсё сапсавалася. А здарылася гэта так.

Летам брат сказаў бацькам, што паедзе з сябрамі на вёску, дзе жыве адзін вучань з іхняга класа. Вёска тая ляжыць над ракой, і лес недалёка, а хата ў іх там вялікая, дык, хаця будуць крыху дапамагаць у полі, знойдуць час на адпачынак, змогуць пакупацца ці пайсці ў лес па ягады і грыбы. Бацькі ахвотна згадзіліся, тым больш, што сябра майго брата пацвердзіў гэта, бо і ён нібы меў ехаць.

Віця (мой брат) вярнуўся праз месяц загарэлы і задаволены. А праз пару дзён расказаў мне па сакрэту, як добрай сястры (падкрэсліў гэта), што не быў ён ні на якай вёсцы, а быў „у свеце“: аж на Балтыцы, дзе цудоўна правёў гэты месяц з сябрамі. Я войкнула, але, зразумела, трымала язык за зубамі, так, як і прасіў мяне брат.

А праз наступныя два дні ў хаце адбылася „бура“. Мама закінула Віцю, што ён іх ашукаў, бо быў зусім не там, куды, як гаварыў, збіраўся ехаць, а быў аж над морам. Ад таго часу брат перастаў да мяне адзывацца, хаця я не была ні ў чым вінавата. Я прабавала тлумачыць гэта брату, гаварыла, што мо гэта сябры яго данеслі маме. Але брат быў цвёрды і непахісны. Проста перастаў мяне заўважаць. Бацькі не разумелі, што здарылася, але я ім нічога не гаварыла.

І вось зусім нядаўна я пачула з суседняга пакою, як мама мая расказвае сяброўцы пра клопаты з выхаваннем сына. Мне стала ясна, як мама даведалася, што хлопцы летам былі не на вёсцы. Проста яна прала Віцеву кашулю і ў кішэні знайшла білеты на электрычны поезд з Гданьска ў Сопат. Тэрмін згаджаўся з нібы-побытам брата на вёсцы.

Я яшчэ нічога брату не казала і проста не ведаю, як пачаць, бо ўпэўнена, што калі пачну, дык скончыцца гэта ўсеагульным скандалам. Памажы мне, Сэрцайка, растлумач, хто тут ва ўсім гэтым найбольш вінаваты.

**Аля з Бельска**

Аля! Вядома, што твая віна тут не найбольшая, бо ты ж пра ўсё ўжо даведалася пасля факту. Але і тады магла ўсё ж прасіць брата, каб сказаў бацькам праўду.

Найбольш, зразумела, вінаваты твой брат Віця. Не мае ён даверу да бацькоў, калі зманіў ім пра сваю паездку. Пакуль што гэта не такая ўжо страшная справа, але можа быць горш! І яго сябра дапамог яму ў гэтай

(Працяг на стар. 8)

## ФАЛЬКЛОР




### ЧАРНАВУС
(жартоўная)

Муж паехаў да мліна, да мліна, да мліна,
а я сабе чарнавуса прывяла, прывяла!

Ліхо его — чарнавуса:
сама з себе дзівуюся —
з чарнавусым цалуюся.

Муж прыехаў уначэ, уначэ, уначэ,
застаў мене на пячэ, на пячэ!

Ліхо его — чарнавуса:
сама з себе дзівуюся —
з чарнавусым цалуюся.

Муж прыехаў з дарогі, з дарогі, з дарогі,
а я ему — бух у ногі, бух у ногі:

— Што я, мілы, зрабіла:
чарнавуса прывяла —
з чарнавусым ноч спала!

*Ад Анны Валкавыцкай, 1915 года нараджэння, вёска Таніца гм. Міхалова, запісаў 21 жніўня 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*

Лукаш. — На небе аніводнай хмаркі, а грукат такі, быццам навальніца зямлю-матушку бязлітасна месіць. Уставайце, будзем разам гадаць, што дзеецца. А, можа, і праўду Ільяш, прарок наш Божы, прапаведваў, што канец ужо гэтаму свету?

Госць хуценька прывёў сябе ў парадак, і яны разам выйшлі на вуліцу. Падыйшлі іншыя суседзі. Ад шашы, якая праходзіла зусім недалёка і спалучала Беласток з Ваўкавыскам, даходзіў аднастайны і няспынны гул аўтамабіляў ды ляскатня жалезных вазоў, а над лесам, з боку Валіл, стаяла чырвонае зарыва, ад Беластока далятаў прыглушаны гул выбухаў.

— Гэта ваенныя вучэнні, значыць, манёўры! — аўтарытэтна заявіў загадчык збожжавага склада. Голасна ніхто яму не запярэчыў. Аб гэтых манёўрах гаварылася ўжо некалькі дзён. Магчыма, што самі вайскоўцы хітравата распаўсюджвалі гэткія чуткі, каб прыкрыць перагрупоўку ваенных часцей блізкай дзяржаўнай граніцы. Была гэта, на жаль, вельмі ж спозненая спроба загарадзіць дарогу мотатанкавым полчышчам гітлераўскай арміі. Ажыццяўленне смерцяноснага плана „Барбаросса“ ўжо распачалося. З раёна Голдапа і Сувалкаў перлі на Вільнюс і Гродна гітлераўскія дывізіі 9 арміі. Іх падтрымоўвалі самаходныя гарматы і танкі 3 танкавай групы, якая складалася з шасці танкавых і трох матарызаваных дывізій, а ў кожнай такой дывізіі больш за 200 танкаў.

З прыгранічных раёнаў за Сямяцічамі, Мельнікам і Высокалітоўскам рушыла чацвертая армія фельдмаршала Г.Г. фон Клюге, якой спадарожнічала 2 танкавая група генерала Гайнца Гудэр'яна. Асноўныя сілы абедзвюх армій нацэліліся на Мінск. Найперш, аднак, трэба было здабыць Беласток.

На поўнач ад Беластока знаходзілася 3 армія, на поўдні — базіравалася 10 чырвонасцяжная армія савецкіх войск. Брэсцкі напрамак бараніла 4 армія.

На шляху ў Мінск Беласток быў найбольш буйным гарадскім цэнтрам. І таму гітлераўскае камандаванне рашыла абысці яго з поўначы і поўдня, выдзеліўшы дзеля гэтага асобныя часці 9 і 4 армій, з бронетанкавай падтрымкай. У сумятні першых дзён вайны савецкае камандаванне запозна разгадала хітры замысел ворага. Дзве арміі апынуліся ў катле. Ужо пад вечар 22 чэрвеня першыя варожыя клешні замкнуліся ў раёне Ваўкавыска. Дарога з Беластока на Мінск і Вільнюс была адрэзана. Утварыўся першы ў гэтай вайне гітлераўскі кацёл, у якім засталіся закупораныя 3 і 10 арміі савецкіх войск. Пяць дзён змагаліся яны ў акружэнні, не ведаючы, што дзеецца на божым свеце, без аніякіх дырэктываў з галоўнага камандавання, без папаўнення жывой сілай і тэхнікай, без належнай каардынацыі ўласных баявых дзеянняў. У

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 4)

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

наваліваўся, то ніхто не мог нічога зрабіць, бо было вядома, што ён усё можа сказаць, а ты нічога. Але часам то і такому нахальніку дапякалі. От, скажам, за які тыдзень або два пападаў ён на другія хрысціны і ўжо цяпер ён не кум, але такі сабе госць. Ой, бралі яго тады ў такія абароты, што свет не бачыў. Калі яму праспявалі разоў дзесяць гародзец і ён вытрас усе кішэні, то ў канцы круціўся, як той сабака на ланцугу, а тут больш ні граша няма. О, так, табе, гіцлю, і трэба. Вазьмі і пагарадзі злотам і срэбрам, калі ў кішэнях пуста.

Ну, але вядома, што так трэба было, бо ўсё ж ішло ад дзядоў і прадзедаў".

Зразумела, што да такой драматычнай сітуацыі наогул не даходзіла і кум ці кума задавальняліся тым, што атрымалі.

Кожная асоба, якая давала ахвяру на гародзец, атрымоўвала лыжку кашы. Калі ўрэшце верціха апаражнялася, яе разбівалі. Мужчыны хапалі абламкі верціхі і кідалі іх за каўнер або за пазуху жанчынам. Тыя асколкі мелі запэўніць жанчынам плоднасць. Значыць, тыя, якія ўжо мелі многа дзяцей і болей не хацелі зацяжарыць, усялякімі спосабамі бараніліся ад абломкаў.

Варта падкрэсліць, што да сёння ў многіх вёсках захаваўся абрад „кашы" і „гародца", аднак замест сапраўднай кашы кум або кума раздаюць цукеркі.

**А. Баршчэўскі**




(Працяг са стар. 7)

мане. Хлопцы проста, відаць, баяліся, што бацькі іх не пусцяць, калі даведаюцца, што яны збіраюцца так далёка. Вядома, Віцевага сябра цяжка было б абвінавачваць у фальшывай зразумелай салідарнасці, бо ўсё ж Віцыным абавязкам было паінфармаваць бацькоў, што і як яны плануюць. Хлопцы, напэўна, пастанавілі ўчыніць групавое „злачынства": кожны з іх у такой сітуацыі мусіў ашукаць сваіх бацькоў. Але ж за групавае злачынства і кара бывае большая. На гэтую кару яны поўнасцю заслужылі. Бацькі ліпэістаў яшчэ павінны ведаць, дзе знаходзяцца іх дзеці.

Віцевы адносіны да цябе маглі б быць таксама іншыя. Калі ў злачынстве прымала ўдзел больш як адна асоба, адкуль можна мець упэўненасць, што ніхто не здрадзіў?!.

Віця павінен перапрасіць бацькоў і цябе (скажы яму, што ты чула) і мець да вас большы давер, хаця ваш давер да яго ўжо пахіснуўся.

**Сэрцайка**



ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

# ДУБ—ЦАР ПУШЧЫ

Падчас студзеньскіх маразоў задумваўся я, з чаго Аляксей Савіцкі вываражыў сапраўдную зіму. Паехаў я спецыяльна ў Свінароі, каб пагаварыць пра гэта. Прашу Аляксея — няхай раскрые сваю таямніцу чытачам „Нівы".

— Няма тут ніякай таямніцы, — кажа ён. — Проста трэба навучыцца бачыць і чуць тое, пра што людзям гаворыць лес. Цяперашнюю зіму лес таксама прадказаў. Глянь, дубы ўсё яшчэ трымаюць сухое і прамёрзлае лісце. Відаць, студзеньскія маразы не адзіныя ў гэтую зіму.

І так мы пачалі гутарку пра цара пушчы. Якое ж гэта цікавае і карыснае дрэва! Не выпадкова яно ўпамінаецца ў найдаўнейшых кнігах усіх старажытных еўрапейскіх цывілізацый. Тысячы год таму назад жалуды дуба былі ежай народаў Поўначы. Нават Пліній падае, што іх спажывалі раней, чым пшаніцу. Таксама і цяпер яны дапамагаюць людзям у нястачы. Падчас гітлераўскай акупацыі жалуды дапамаглі пражыць не адной беднай сям'і. Не мала хлеба з дадаткам жалудовай мукі з'елі партызаны. Пра тое, што жалуды надта ж любяць свінні, а таксама пра ўласцівасці дубовай драўніны нават і згадваць не трэба — гэта ўсім вельмі добра вядома.

Дуб з самых даўніх часоў лічыўся святым дрэвам. З пошуму дубовага лісця жрацы (і жрыцы) вычытвалі боскія прысуды. У святых гаях славян дуб быў дрэвам самым дастойным, ён увасабляў бога маланкі, агню і неба. Славуты этнограф і гісторык Зыгмунт Глогер з Яжэва, што на Беласточчыне, у сваёй „Encyklopedii Staropolskiej" пісаў: „рэха старажытных вераванняў — гэта сённяшнія яшчэ народныя паданні і погляды аб дубе". Дубовыя лісці, жалуды і цэлыя галінкі, адпаведна падрыхтаваныя і прыпраўленыя заклінаннямі, быццам бы лячылі нарывы, каўтун, курыную слепату і „дрыгавіцу вачэй", ого! нават патрапілі ўваскрасіць... вісельніка. Знахары і заклінальнікі ўжывалі дуб, каб кінуць чары, перанесці хваробу з аднаго чалавека на другога, выявіць злодзея і зрабіць іншыя дзівосныя ўчынкі. Даўгавечнасць дубоў стала прычынай таго, што з кожным старым дубам — часцей за ўсё помнікам прыроды — звязана нейкае паданне, якаянебудзь легенда. Шкада, што ў „Ніве" надта ж мала месца і няма магчымасці расказаць хоць некаторыя з іх.

Дуб, як амаль кожная расліна, валодае таксама пэўнымі лячэбнымі ўласцівасцямі. Сыравіна, якая скарыстоўваецца ў медыцыне, гэта кара з маладых двух-трохгадовых галінак. Для фармацэўтыкі дуб вырошчваецца на спецыяльных плантацыях, але для ўласных патрэбаў кару можна браць з дзікарастучых дрэваў. Яе збіраюць у сакавіку-красавіку, як у дрэвах „рушаць" сокі. Найлепш збіраць з маладых дрэўцаў падчас працярэбкі лесу, а нават з верхавінак ссечаных старых дрэў. Сабраная кара павінна мець форму трубак са сценкамі таўшчынёй каля 2 міліметраў і доўгіх каля 30 сантыметраў. Знятую кару сушаць у сушылках або правейных зацененых месцах у тэмпературы не вышэй 35°C. Высушаную кару трэба трымаць у ільняных або канапляных торбачках — ні ў якім разе са штучнага рэчыва.

Спакон веку ў народнай медыцыне напараннямі з дубовай кары лячылі каросту і лішаі, кроватачэнні са слізістай абалонкі страваводa, паносу і г.д.

Цяпер адвары з дубовай кары ўсё радзей прымаюць ва ўнутр. затое па-ранейшаму часта ўжываюцца знешне пры апёках I і II ступені, адмарожаннях, нарывах на жаўлаках (жыляках), экземах, гемароі, белях (белых уплавах), запаленнях скуры.

Сучасныя савецкія падручнікі па лячэнню зёлкамі паказваюць на магчымасць нарыхтоўкі ў хатніх варунках наступных лячэбных сродкаў:

— для паласкання поласці рота і горла (пры запаленчых станах) — заварыць 10 грам дубовай кары ў 200 грамах вады;

— для лячэння апёкаў і адмарожанняў — зварыць 20 грам кары ў 200 грамах вады.

Для паласкання горла карысна нарыхтаваць напаранне з дубовай кары (тры часткі) і ліпавага цвету (дзве часткі). Дзве сталовыя лыжкі такой сумесі запарыць шклянкай вады, накрыць на дзве-тры мінуты, працадзіць, астудзіць і паласкаць горла на дзень некалькі разоў.

**Б. Паскробка**
Мал. А. Альшэўскага

(Працяг са стар. 7)

# У КАТЛЕ

падбеластоцкіх лясах, асабліва на паўднёвы-ўсход ад горада, сапраўды кіпела, як у праўдзівым пякельным катле.

Водгукі гэтага пекла, зразумела, далятаі і да грыбаўскіх хутароў. Хтосьці з сялян якраз вяртаўся з Гарадка. Перапынілі яго ўчарашнія госці дзядзькі Лукаша. Гарадок быў тады цэнтрам мясцовай савецкай улады. Хто вяртаўся з Гарадка, той мог ведаць больш ад жыхароў з Грыбаўцоў.

— Якія там манёўры! — адрэзаў селянін. — Немцы чыгунку бамбяць! Гарыць збожжавы склад у Валілах.

Загадчыка быццам падарвала.

— Ну, мне пара! — заявіў і паглядзеў на свайго падначаленага Міцьку. — І ты тут не заседжвайся!

Што гэта мела абазначаць, малады камендант прамысловай стражы зусім не ведаў. На ўсялякі выпадак рашыў дабрацца ў Гарадок, каб адшукаць там сакратара камсамольскай прыфабрычнай ячэйкі.

...А гоман на шашы ўсё павялічваўся. Дзяцюкі і хлопцы дзеля адной толькі цікаўнасці пабеглі туды, каб паўзірацца на людскі паток, які нечакана запоўніў шашу і прышасейныя кусты. Салдаты, ваенная тэхніка, аўтамабілі і вазы з бежанцамі — усё гэта мроілася і клубілася ды перашкаджала адно другому і ніхто толкам не ведаў, чаго і куды трэба накіравацца...

У паветры паявіліся нямецкія самалёты. У людскі натоўп пасыпаліся бомбы і кулі. Параненыя людзі ўзнялі неймаверны крык. Дзеці бегалі па лесе і шукалі сваіх бацькоў. Крык гэты даходзіў аж у суседнія вёскі...

Толькі на другі дзень, у панядзелак, удалося Міцьку прабіцца ў Гарадок, але і там ужо не было нікога з тых, каго ён шукаў. Давялося вяртацца дамоў. Чуў, што перад ім вырастае нейкая цёмная сцяна. Слова „акупацыя" тады яшчэ тутэйшыя людзі не ведалі. Але яна ўжо пачыналася, хаця яшчэ ніхто з іх жывога немца не бачыў. Толькі гэтыя самалёты амаль безупынку злавесна гудзелі над суседняй шашой, наводзячы сваімі бомбамі і кулямётамі сапраўднае спусташэнне. Аб гэтым, аднак, ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Гeрт Прокап

## СТРЭЛЬБА, ЯКАЯ НЕ ХАЦЕЛА СТРАЛЯЦЬ

**Казка**

Была калісьці стрэльба, якая не хацела страляць. Не таму, што яна заганарылася, як некаторыя з тых раскошных, багата і мудрагеліста аздобленых стрэльбаў, што знайшлі сабе прытулак у музеях і выставачных залах. Гэта была зусім звычайная баявая стрэльба, якія тысячамі выраблялiся на зброевых заводах вялікага прамысловага горада Шэфільда. У яе не было ніводнай заганы — ні звонку, ні знутры. Сам зброевы майстар завода адрэгуляваў яе бой і задаволена паківаў галавой.

З радасцю прыняў яе і зброевы майстар палка, куды яе прыслалі, — стары служка з вусамі да вушэй. Праверыўшы, як яна страляе, ён пагладзіў рукой гладкае ложа і паставіў стрэльбу ў асобныя козлы на зброевым складзе. Ён збіраўся аддаць яе сержанту Берыбэры, да якога ставіўся з вялікай прыхільнасцю. Новыя стрэльбы, што дагэтуль нюхалі порах толькі на палігонах, уважліва слухалі расказы бывалых, вышчарбленых у баях штыкоў старых стрэльбаў пра жорсткія бітвы і незвычайныя прыгоды і далі сабе слова ваяваць не горш за іх.

Вельмі ўзрадавалася наша стрэльба, калі аднойчы прыйшоў сержант Берыбэры і ўзяў яе з сабою. Убачыўшы вялізны карабель з трыма высачэзнымі мачтамі, які павінен быў везці сержанта і многіх іншых салдат у далёкую Індыю, яна падумала, што яе чакаюць хвалюючыя прыгоды, паляванне на тыграў у джунглях і на кітоў у моры.

Але стрэльбу разам з іншай зброяй схавалі ў цёмную камору пад верхняй палубай, і калі б яна была жывой істотай, дык абавязкова захварэла б марской хваробай. Афрыку стрэльба зусім не ўбачыла, таксама як і Індыю, таму што высадзіліся яны ноччу, і, калі ўзышло сонца, яна апынулася ўжо ў казарме, якая нічым не адрознівалася ад казармаў у Англіі. Некалькі тыдняў яе бралі толькі на стрэльбішча альбо на вучэбны пляц, і яна падумала: „Здаецца, я так і не пабываю ў сапраўдным баі!“

Але адным ранкам трубач пратрубіў трывогу.

„Нарэшце!“ — зарадавалася стрэльба. Салдаты кудысьці памчаліся на конях, і неўзабаве наперадзе пачуліся стрэлы.

Сержант Берыбэры аддаў загад:

— Стой! Злазь з коней!

Ён узяў стрэльбу наперавес і пакрочыў па вулачцы між маленькіх пахілых хацін. У канцы вулачкі пад дрэвамі стаялі нейкія дзіўныя з выгляду цёмнаскурыя людзі. „Гэта ворагі“, — спачатку вырашыла стрэльба. Потым убачыла, што ніхто з іх не мае зброі, а неўзабаве разгледзела, што ўсе яны прывязаны да дрэваў вяроўкамі. Сержант Берыбэры і салдаты выстраіліся ў шарэнгу і прыставілі стрэльбу да ног.

— На прыцэл! — загадаў сержант і сам прыцэліўся ў індыйскага хлопчыка.

Хлопчык з жахам утаропіўся на ствол стрэльбы і раптам пачаў крычаць і вырывацца з вяровак.

— Агонь! — скамандаваў сержант.

Праз рулю стрэльбы з шоргатам праскочыла куля, праляцела ў паветры і ўпілася ў грудзі хлопчыка. Яго кашуля пачырванела. З вуснаў яшчэ раз сарваўся крык, хлопчык абмяк і мёртвы павіс на вяроўках — жудаснае відовішча!

Ноччу, калі салдаты паснулі, стрэльбы пачалі адна перад адной выхваляцца сваімі дзённымі подзвігамі і колькасцю забітых ворагаў.

— Шшась-шшась! — сказаў стары палаш, што вісеў на ганаровым месцы паміж вокнамі. — Вы размалявалі ўсё так, быццам удзельнічалі ў сапраўдным баі, а на самай справе ўціхамірылі ўсяго толькі жменьку сялян-паўстанцаў.

Тады наша стрэльба расказала, што яна бачыла і які жах перажыла.

— Шшась-шшась-шшась! — усклікнуў бывалы палаш. — Што там — адзін расстраляны! Вось я, напрыклад, сотню — ды што я кажу! — сама меней тысячу ворагаў пасек на кавалкі!

Ад захаплення ва ўсіх стрэльбаў аж дух заняло, і толькі наша стрэльба ніяк не магла забыцца пра расстралянага хлопчыка і раптам яна сказала:

(Працяг на стар. 10)



Так спявалі на ёлцы ў школе ў Тыневічах Вялікіх вучні другога і трэцяга класаў.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Мар'ян Дукса

## ФАНТАСТЫЧНЫЯ РАМАНЫ

Прыходзіць сон,
глыбокі самы.
Відаць,
Ужо заснула мама.
Сястрычка спіць
даўным-даўно.
Глухая ноч
плыве ў акно.
У сне муркоча
Кошка Мурка.
Не брэша Барсік
У завулку.
Нямеюць дрэвы
на дварэ.
А Стася
Сон вось не бярэ.
Як быццам ноч
Не пачалася,
Не апусцілася
на Стася
Аж пошчак
Прабягае звонкі —
Так шумна шастаюць
Старонкі.
Забудзеш хутка,
Што ты дома...
Ляціш
Пад грукат касмадрома
Увысь,
На зыркую камету.
Насустрач —
дзіўная планета,
Адкуль пражэктар,
Нібы нож,
Сячэ...
Праскочылі мы ўсё ж!
Ракета зноў
увысь панесла
Зямлян...
Аж гойдаецца крэсла,
Рыпіць і тузаецца ў Стася.

...Назаўтра ж
Пазяхае ў класе:
„Ой, сон да парты
Прытуліў —
Затое ў космасе я быў!“

## КІМ БЫЦЬ

„Быць касманаўтам —
Слава немалая!“ —
На перапынку
Саша разважае.
А Міша
Усміхаецца фарсіста:
— Даб'юся славы,
стаўшы футбалістам.
— Вось падрасту я
і пайду ў актрысы, —
Зашчабятала вёрткая Анфіса.
Адзін Антон
Маўчыць ля кніжнай шафы.
— Скажы і ты,
Кім хочаш быць...
— Жырафам!
— Што, што?
— Жырафам.
І на гэта — баста,
Таму што сшытак
закрывае Наста.
Не памагае
За спіной і Рая,
Бо і сама
на ўроках „загарае“.
Даводзіцца ўсур'ёз —
якія жарты! —
Цягнуць мне шыю
Аж да першай парты.

Два дні гуляла завіруха. Пазаносіла ўсе сцежкі, вуліцы замяла. Тараскаў тата вось ужо другія суткі не быў дома. Расчышчае бульдозерам снегавыя заносы.

А дзецям — адна радасць. Двор, нібы той вулей. Гудзіць, гамоніць, рагоча. Хто дзеда-снегавіка, хто красуню-снягурачку леніць. Пасля мяцеліцы адразу паадліжнела. Снег стаў мяккі, ліпучы.

Тараска і яго сябрукі пад трыма соснамі, што растуць на двары, снегавую крэпасць збудавалі. І адразу пачалі штурмаваць яе. Спачатку Іванка з Алегам наступалі, а Тараска адзін адбіваўся. Потым памяняліся. Тараска адзін рынуўся на дваіх.

Раптам за сцяной усё зацiхла. Здаюцца? Без бою? Не можа быць. Не такія Алег з Іванкам.

Падпоўз Тараска бліжэй да сцяны, прыслухаўся. Сапуць, крэкчуць яго сябрукі. Перагнуўся цераз сцяну і вачам не дае веры. Счубіліся Алежка з Іванкам не на жарт. Як тыя пеўні падскокваюць, мерачыся адзін аднаго за каўнер схапіць. І каб было за што? Снежкі, якія ў іх за гранаты былі, не падзялілі.

Падбег Тараска, паспрабаваў разняць. Ды дзе там! І яму дасталося такога штурханца, што аж носам баразну ў снезе выраў.

Сядзіць Тараска ў гурбе, азіраецца. Алежка з Іванкам ужо схапіліся аборуч, качаюцца. Як жа іх развесці? А то насы адзін аднаму паадкусваюць, такія забіякі.

Глянуў угару Тараска, на сосны. А на галінках — поўна снегу. Вісіць глыбамі. Вось-вось асунецца ўніз. Страшна стала. І толькі падхапіўся, як каля самых ног яго нешта гупнула і снегавы курганок ураз вырас. Камячкі снегу за каўнер заваліліся.

„Ах, дык гэта вы, сосны, са мной хочаце ў снежкі пагуляць? Ну што ж, давайце, падужаемся", — сказаў сам сабе Тараска. У адзін момант зляпіў ладную галачку са снегу і шпурнуў яе ўгару.

Уладзімір Юрэвіч

# БОЙ ПАД СОСНАМІ

Сасна адразу адказала: выпусціла са сваіх лап новую, яшчэ большую глыбу.

Тараска тады пачаў кідаць снежкі на сосны адну за адной. Снегавыя камлюгі спаўзалі з галін, рассыпаліся на ляту камячкамі. Бачыць хлопчык: сасны тры, а ён адзін. Не ўправіцца яму. Глянуў, а тыя абібокі — Алег з Іванкам — усё яшчэ валтузяцца.

„Ды што гэта яны сабе думаюць?" — раззлаваўся Тараска. Склаў далоні рупарам і падае каманду:

— Хло-о-о-пцы-ы! У ата-а-ку!

Алег з Іванкам ураз падхапіліся. Стаяць, на сябе не падобныя. Угрэліся, расчырванеліся. У аднаго на носе чырвоная драпіна, у другога — на лбе гузак.

А Тараска камандуе далей:

— Па дзесяць гранат падрыхтаваць!

І сам, і Алег з Іванкам спяшаюцца, хто хутчэй налепіць сжэнак-гранат. Рукі закарчанелі, і пахукаць на іх няма калі. Ужо новая Тараскава каманда гучыць:

— На тры сасны ў атаку, ма-а-арш!

Тараска сам першы кідаецца наперад, шпурляе адну за адной снежкі, каб пацэліць сасне ў самыя лапы. Тое ж робяць і Алег з Іванкам. Яны ўжо забыліся пра сварку. Адзін аднаму снежкі падаюць.

Зверху абрываюцца адна за адной усё большыя глыбы. Падаюць, крышацца, разлятаюцца. Як хораша, весела, радасна!

Мусіць, з паўгадзіны працягваўся бой пад соснамі. І хлопцы перамаглі. Зняможаныя сосны неяк ураз пазеленелі. Яны прывітальна махалі вольнымі ад снегу лапкамі сваім сябрам-вызваліцелям.

А хлопцы дружна абняліся, як тыя тры сасны, што купкай растуць у двары, і пайшлі дамоў. Пара было садзіцца за ўрокі.

(Урывак з кнігі „Тараскавы турботы").

(Працяг са стар. 9)

## СТРЭЛЬБА, ЯКАЯ НЕ ХАЦЕЛА СТРАЛЯЦЬ

— Больш я ніколі не буду страляць, чуеце? Ніколі!

Усе здзекліва зарагаталі, а стары ваяка сказаў:

— Шшась-шшась-шшась! Хіба ты маеш права прыняць такое рашэнне! Ты ж на вайсковай службе і абавязана падпарадкавацца загадам. Павер мне: ты хутка з асалодай будзеш садзіць кулю за куляй у ворагаў.

Але з таго часу стрэльба ніводнага разу не стрэліла. Першы раз куля засела ў ствале, другі раз заеў баёк, а трэці раз заклініўся затвор. Сержант Берыбэры запатрабаваў, каб яму далі новую стрэльбу, і не на жарт узлаваўся на зброевага майстра, які абяцаў даць яму лепшую стрэльбу, а што даў? А зброевы майстар спакою сабе не знаходзіў, усё валаводзіўся з ёю: і тое рабіў, і гэтае, ды ўпартая стрэльба не страляла. Тады ён запхнуў яе ў цёмны куток, а калі салдаты сабраліся дадому, непрыкметна падмяніў яе і такім чынам збыў з рук.

Так наша стрэльба зноў апынулася ў Англіі, і пакуль яе бралі на баявую падрыхтоўку або на каравульную службу, усё ішло як мае быць, але як толькі яе ўзялі на стрэльбішча, усе зноў зазлавалі: стрэльба не страляла.

Астатнія стрэльбы ганілі яе за тое, што яна не выконвае сваіх абавязкаў. Ды стрэльба адказвала:

— Кажыце, што хочаце, а я ўсё роўна больш страляць не буду.

— Чаму? — дзівіліся тыя. — Як табе не сорамна?

— Вам не зразумець мяне, бо вы не бачылі таго, што бачыла я.

Працяг у наступным нумары.

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 31. Іна Емяльянава, вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, Ростов-на-Дону, ул. Российская, д. 14, кв. 30. Кравченковой Оле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, д. 14, кв. 4. Ботя Вадиму. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

* * *

БССР, 231960, гродзенская вобл., г. Свіслач, вул. 17-га Верасня, д. 14, кв. 22. Борэль Лене.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ленина, д. 13, кв. 43. Пономарёвой Кате.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ленина, д. 13, кв. 44. Привиденцевой Любе.

* * *

СССР, г. Ростов-на-Дону-59, ул. 1-ая Киргизская, 103. Петросян Эльвире. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, дом 25а, кв. 1. Каминской Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Копылова, 4, Кученову Валере. Хлопчыку 8 год.

* * *

СССР, 344029, г. Ростов-на-Дону, пр. Сельмаш, д. 4, кв. 130. Корниенко Ире. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

УССР, Донецкая обл., г. Артёмовск-6, ул. Чайковского, д. 17, кв. .9 Алексеевой Лене. Дзяўчынцы 10 год.

* * *

СССР, 344098, г. Ростов-на-Дону, пр. Корачёва, 15/1, кв. 77. Бригадир Тане. Дзяўчынцы 17 год.

## ПАДСУМАВАННЕ „ЗОРЧЫНАГА" КОНКУРСУ

### САБАЧКА ЛЁНІКА МАЕ ЎЖО ІМЯ

**Прыемна мне паведаміць нашых чытачоў, што сабачка Лёніка мае ўжо сваё ўласнае імя. Вельмі яму радасна, калі гаспадар звяртаецца да яго воклічам „Зорчык!"**

**Прапанову гэтую падалі незалежна вучні пятага класа школы ў Пасынках і Галінка Шпільна са Старога Беразова. Праўда, яна прапанавала імя Зорка. Але гаспадар сабачкі, узяўшы пад увагу яго мужчынскі пол, трошкі перайначыў гэтае імя, як, зрэшты, прапанаваў рэдактар „Нівы" Віктар Рудчык. Паколькі рэдактар Рудчык, як дарослы чытач, права да ўзнагароды не мае, альбомы з аўтографам мастака Лёніка атрымаюць вышэй названыя дзеці.**

**Наогул трэба прызнаць, што дзеці з розных школ ведаюць шмат прыгожых і вясёлых імён для сабачак. Відаць, любяць дзеці сваіх чацвераногіх сяброў і ўмеюць іх называць ласкава і міла. Вось, напрыклад, дзеці з Трасцянкі прапанавалі такія імёны для сабачкі: Кудлацік, Гаўка, Чарнушка, Мішка, Малышок. Аня Касабук з Беластока і Крыся Корх з Дубіч Царкоўных хацелі б назваць сабачку Мурзікам, а Еля Федарук з Навакорніна — Пушком.**

**Маю надзею, што гэтыя прапановы прыдадуцца дзецям, якія мараць займець уласнага сабачку. Жадаю вам усім знайсці добрага і адданага чацвераногага сябра.**

**„ЗОРКА"**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Чый змей узляцеў найвышэй, а чый найніжэй?

Маляваў Веслаў Сіверскі.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## АДДЗЯКА

Мой сусед Мікола Шпінат — трактарыст. Я працую шафёрам. Мы заўсёды дапамагаем адзін аднаму. Трэба штонебудзь прывезці — Шпінат да мяне звяртаецца. Трэба ўзараць агарод — я іду да суседа. А як разлічвацца? Грошы браць няёмка, не па-суседску будзе! А вось бутэльку за тое, што выручыў, — не грэх... Праўда, ні я, ні Шпінат, калі шчыра казаць, не дужа падкія да тае гары — за баранкай жа!

...Выграс Шпінат не так даўно бульбакапалкай на маім агародзе бульбу — я яму бутэльку „Нектару Палесся". Ён яе закінуў за сядзенне і — паехаў. Назаўтра Мікола гаворыць: трэба дроў прывезці. Прывезлі. І Шпінат — бутэльку мне. Таксама „Нектару Палесся". Я ж за рулём, піць не буду, вядома. А за сядзенне кінуць — кінуў. Праз колькі дзён я папрасіў Шпіната, каб агарод узараў. Ну і аддаў яму... той жа „Нектар". Не прайшло і тыдня — гляджу: вяртаецца знаёмая пляшка!..

Вось так і ходзіць бутэлька з рук у рукі мо з паўгода. Ужо наклейка сцерлася, корак заржавеў, а яна ўсё служыць нам ды служыць. Не верыце?

**Васіль Феранц**



Каму залатая рыбка, а каму і морж.

# НІЎКА



— На што скардзіцеся?
— Забыў...

## У ВЫШЭЙШЫХ СФЕРАХ

— Рад вас бачыць, — гаворыць рассеяны прафесар адной сваёй знаёмай. — А як маецца ваш муж?

— Але я не замужам...

— Ах, значыць, ваш муж халасцяк?

## БЯЗВЫХАДНАЕ СТАНОВІШЧА

Малады муж вяртаецца з працы і тут жа дакарае жонку:

— Ты зноў нешта спаліла на кухні?

— Так, — адказвае жонка. — Але цяпер становішча сапраўды бязвыхаднае: згарэла кулінарная кніга.

## СУПЯРЭЧНАСЦЬ

— Ваш сын надта непаседлівы, — гаворыць настаўніца бацькам свайго вучня.

— Якім жа чынам яму ўдалося прасядзець два гады ў адным класе? — абураецца маці.

## ПАМЯЦЬ ПАДВЯЛА

Наведвальнік: — Што гэта? Дасюль вы клалі ў боршч два кавалкі мяса, а цяпер толькі адзін!

Афіцыянт: — Выбачайце, пэўна, кухар забыў яго разрэзаць.

## РАЗУМНЫ ПЁС

— А ведаеш, кум, ёсць сабакі разумнейшыя за сваіх гаспадароў.

— Ну і здзівіў! Я сам меў такога.

Стаў перад дылемай „Быць або не быць?" І стаў двудушным.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У час танца Жан кружыць сваю даму з неймавернай скорасцю. Ледзь не страціўшы прытомнасці, тая шэпча:

— Чаму вы так шпарка кружыцеся? Гэта ж павольны танец!

— Нічога падобнага! — круцячыся ўсклікнуў Жан. — На пласцінцы напісана „33 абароты ў мінуту"!

*

— Хто такая гэта Францыска? — разгневаная жонка размахвала перад носам мужа запіскай, знойдзенай у яго кішэні.

— Францыска — гэта кабыла, на якую я ставіў у мінулым тыдні, — спакойна адказвае той.

— Дык вось: гэта кабыла чакае цябе ў сем ля кінатэатра!

*

Размаўляюць два прыяцелі.

— Не ведаю, што б рабіла мая жонка, каб я развёўся з ёю, — кажа адзін.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Нічога б не рабіла. Толькі б радавалася.



— Усе пасаджаныя ўцяклі, за выключэннем гэтага. Ён асуджаны за дваяжэнства.

З „Весніка Задрыпоніі"

## НАЗІРАННІ, ГІПНОЗЫ, АДКРЫЦЦІ

Цікавае назіранне правялі работнікі НДІ таракан. Выявілася, што калі тараканаў пазбавіць поўнасцю на доўгі час ежы, вады, паветра і трымаць у цёмным памяшканні пры тэмпературы —30°С, у іх прыкметна зніжаецца жыццёвы тонус.

## ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫТАЦЬ?

Слова — срэбра, маўчанне — золата. А жэст?



Без слоў.

## НЕ МАГУ НІЯК БЕЗ ПРАЦЫ

Я сабой не любаваўся,
Не ганяў па полі мяч.
Менш плакаў, больш смяяўся
З жартаў, гора і няўдач.
Усяго ў жыцці хапала,
Я і сеяў, і араў.
Толькі сну бывала мала,
Ды на працы я не спаў.
Быў як камень, як жалеза,
Думаў я, калі дапну,
Да той пенсіі далезу,
От тады і адпачну.
Вось да пенсіі дажыўся,
Не святкую, не ляжу.
Не хаваю, што стаміўся,
Я ўсё з працаю дружу.
Я жыву, як у палацы,
Ёсць і хлеб, і чаравік.
Не магу ніяк без працы,
Гультаём быць не прывык.
Не скупы я, не святоша,
Нельга мне не працаваць.
Зарабляю яшчэ грошы,
Каб і ўнукам памагаць!

**Анатоль Астрэйка**



— Вось спісак асноўных патрабаванняў да майго мужа.

# Курёзы

## ШЭРЛАК ХОЛМС

У тэхаскім горадзе Бейтаўне (ЗША), як сведчыць агенцтва „Асашыэйтад прэс", паліцыі садзейнічаюць у раскрыцці злачынстваў нават птушкі. Аднойчы здарылася пакража ў доме. Служыцелі грамадскага парадку збіліся з ног у пошуках рабаўнікоў і доўга не маглі даць рады: дзейнічалі надта вопытныя „дамушнікі", якія не пакідалі слядоў. На дапамогу прыйшоў гаспадарскі папугай, які раптам стаў паўтараць: „Ідзі сюды, Роберт", „Ідзі сюды, Роні..." Пасля гэтага ўдалося выявіць зладзеяў, якія ўжо былі на ўліку ў паліцыі.

## У СУДАНЕ

Паводле паведамлення інфармацыйнага агенцтва Судан Ньюс Эйджэнсі, ваенны суд горада Омдурман вынес рабаўніку Алі Хасану Авуангу прыгавор: адсекчы правую руку і левую нагу і прымусіць яго выплаціць у якасці скасавання страт гандляра, на чыё дабро ён пакваліўся, 300 долараў. Крыху раней там стала вядома, што двое зладзеяў, якія былі злоўлены на пакражы электрычнага кабелю, таксама ж падвергліся ампутацыі правых рук і левых ног у цэнтральнай турме Хартума. Экзекуцыя праводзілася публічна, каб іншым не панадна было красці.




Да залатога вяселля дажываюць толькі тыя, хто менш за ўсё думае пра золата.